© PDF: Kamunikat.org 2024 © Інтэрнэт-версія: Kamunikat.org 2024




# Ніва

ОРГАН ГАЛОЎНАГА ПРАЎЛЕННЯ БЕЛАРУСКАГА ГРАМАДСКА-КУЛЬТУРНАГА ТАВАРЫСТВА

№ 34 (443) | ГОД IX | 23 ЖНІЎНЯ 1964 г. | ЦАНА 60 ГР.




Беласток. Рынак Касцюшкі. Фота Г. Рагазінскі

# ЭДВАРД ОХАБ — старшыня Дзяржаўнага савета ПНР



12 жніўня г.г. Сейм адзінагалосна выбраў Эдварда Охаба старшынёй Дзяржаўнага савета ПНР.

Эдвард Охаб нарадзіўся ў 1906 г. у Кракаве. 14-гадовым юнаком ён пачынае працоўную дзейнасць і адначасова вучыцца. У 1925 г. закончыў вышэйшую гандлёвую школу ў Кракаве, а пасля двух год — вышэйшыя кааператыўныя курсы пры Ягелонскім універсітэце.

Э. Охаб з маладых год пачынае рэвалюцыйную дзейнасць — уступае ў Камуністычную партыю Польшчы. Партыя даручае яму ўсё больш адказныя заданні. У 1930 г. ён быў арыштаваны і прабываў у засценках «Святога Міхала» і «Бастыёна». Неўзабаве пасля вызвалення з турмы яго зноў арыштавалі і прыгаварылі на 4 гады турмы.

Эдвард Охаб у наступных гадах становіцца адным з вядомых арганізатараў адзінага фронта барацьбы рабочага класа. У 1936 г. ён кіруе ўсеагульнай забастоўкай лодзінскіх тэкстыльшчыкаў і арганізуе ў Варшаве маніфестацыю ўсіх прагрэсіўных сіл. У 1937 г. ён быў арыштаваны і прыгавораны на 10 год турмы. У турме сядзеў да 1939 г.

У часе гітлераўскага нападзення на Польшчу ён выходзіць з турмы і разам з іншымі камуністамі прымае ўдзел у гераічнай абароне Варшавы. Пасля падзення Варшавы выязджае ў Савецкі Саюз. Э. Охаб з'яўляецца адным з арганізатараў Саюза польскіх патрыётаў і адным з першых афіцэраў 1-й дывізіі імя Тадэуша Касцюшкі. Ён прыймае ўдзел у бітве пад Леніна, разам з польскай арміяй праходзіць яе баёвы шлях.

У 1944 г. Э. Охаб выбіраецца членам ЦК ППР. Кіруе ведамствам цывільнай адміністрацыі ПКВН. У 1945 г. працуе на пасадзе загадчыка аддзела прапаганды ЦК ППР. У 1946 — 1947 г.г. першы сакратар Катовіцкага ВК ППР, а затым старшыня ЦРЗЗ. Потым быў віцэ-міністрам нацыянальнай абароны. Ад 1954 г. член Палітбюро ЦК ПАРП і сакратар ЦК. Потым міністр сельскай гаспадаркі. Затым вяртаецца на работу ў сакратарыят ЦК ПАРП. Э. Охаб быў дэпутатам Краёвай рады народавай і Сейма ўсіх скліканняў. З 1961 г. намеснік старшыні Дзяржаўнага савета.

## Напрыклад, у Капітаншчыне

# ВЯСКОВАЯ РЭСПУБЛІКА

Шаноўных гаспадароў прашу цярпліва прачытаць гэты артыкул. Раскажу ў ім аб тым, як сваім спосабам пазбавіцца палосак - палосачак (шахаўніцы), а дакладней кажучы — як пазбавіліся іх у гайнаўскай вёсачцы Капітаншчына.

Тут не чакалі, пакуль павятовая рада прышле ім землямера для камасацыі. Вядома — камасацыя каштуе і то нямала.

Капітаншчанскія гаспадары пастанавілі правесці камасацыю ўласным коштам, гэта раз. Па-другое, папрасілі багаты гайнаўскі ПЗГС «Самапомач Хлопска», каб дапамог ім, бо нездарма ж завецца «Самапомаччу» (Рацыя!). У так важнай справе аднаго разу завітаў у Капітаншчыну сам прэзэс ПЗГС-у тав. Кастусь **Майсеня**. Ён — папулярная асоба на Гайнаўшчыне (калі можа, заўсёды і кожнаму паможа). Зышоўся вясковы сход ды аднагалосна ўхваліў спецыяльны камасацыйны статут згодна з рознымі фармальнымі правіламі (і параграфамі).

Фармальнасць ёсць фармальнасцю, без таго ані руш. І так — згодна са статутовымі параграфамі ўтварылі, так званую, **камасацыйную раду**, да якой належаць усе ўласнікі гаспадарак. Пастановы рады выконвае яе пяціасабовы прэзідыум на чале са старшынёю, яго намеснікам і сакратаром. Як пастановіць рада, так прэзідыум з землямерам зробяць! Рашэнні рады з'яўляюцца канчатковымі, раз назаўсёды важнымі, калі галасуе не менш 75 працэнтаў членаў. Ніхто не мае права зварочвацца да ніякіх іншых улад. У выпадку, калі хтосьці раздумаецца і раптам не захоча камасацыі, павінен вярнуць кошты (каля тысячы злотых). Гэтакіх балаганшчыкаў у Капітаншчыне, бадай, не будзе — за моцна ўелася ў косць дзедавае гаспадаранне ў 50-ці кавалках - кавалачках; ах, як добра мець зямлю ў 1—2 абшарах (жняяркам, трактарам не вузка).

Пашчаслівілася вышукаць добрага землямера ў асобе Івана Андрэюка; свойскі ён хлапец — родам з Барысаўкі — хоча памагчы вёсцы і за сваю (нялёгкую) працу нават залатоўкі не патрабуе, хаця рада збіраецца скласці штосьці па 100 злотых. Але Ваня, відаць, задумаў зрабіць Капітаншчыне «неспадзяванку» і не ўзяць ні граша за планы (што ж, цяпер «чыны» модныя; брава, Ваня).

Затое ПЗГС за фатыгу патрабуе ад рады, каб гуртам уступіла ў члены «Самапомачы Хлопскай» ды ўнесла поўныя ўклады (па 250 зл.) — Зразумела, што каму шкодзіць належыць да гандлёвай даходнай арганізацыі, якая гэтулькі памагае ў камасацыі. Давайце, хлопцы, запішамся!

(Працяг на стар. 4)








Будзе бура. Фота В. Рудчык

© PDF: Kamunikat.org 2024 © Інтэрнэт-версія: Kamunikat.org 2024

© PDF: Kamunikat.org 2024
© Інтэрнэт-версія: Kamunikat.org 2024

**У УЗНАГАРОДА НАШАГА КОНКУРСУ «ДВАЦЦАЦІГОДДЗЕ»**

# ЧЫМ МЫ МАГУТНЫ

Плёскі — гэта вёска, якіх шмат на Беласточчыне. Здаецца, нічым не адрозніваецца ад іншых. Вакол акружае яе пясчаная, дрэнная зямля; з адной стараны лес, з другой — луг. З захаду, у адлегласці 1,5 км прабягае істужкай шаша, якой можна заехаць і ў Беласток, і ў Люблін, і самы блізкі наш горад Бельск (17 км). І так здаецца, што тут нічога цікавага, нудна, што ж, вёска.

А аднак...

Мы тут жывем сваім жыццём. Нам тут добра. Вёсачка наша налічвае ўсяго каля 720 жыхароў. Некаторыя з іх адчулі на сваіх плячах уладу паноў і гітлераўскіх захопнікаў. 2/3 — гэта жыхары народнай улады. Яны не ведаюць, што такое «прымэды» (горасныя рванні падошваў ног) ці злізаныя халоднаю расою босыя ногі дзяцінства. Бо хто ж цяпер будзіць свае пяшчоты з усходам сонца да пасення нават кароў, не гаворачы пра іншыя. Шчаслівае іх дзяцінства. Адны толькі цікаўнасці на свеце. Навуку бяры поўнымі рукамі, бо яна аж просіцца, каб жыццёносная «зямля» чалавечага розуму прыняла яе ў сваю глыб. Раніцай у школу спяшаюць як з адной, так і з другой стараны вёскі маленькія і большыя дзеці з выпханымі ранцамі і партфелямі. На тварыках у іх расцвітае сонца радасці, цікавасці, што сёння прынясе цікавейшага ад учора. Новыя ілюстрацыі, картачкі, словы ці літары хвалююць найменшых, як фізічныя ці хімічныя доследы старшых вучняў. Але не толькі тыя ходзяць у нашу школу. У ёй зімовымі вечарамі зіхацяць электрычным святлом вокны да позняй ночы. Гэта вучацца іх бацькі і моладзь, усе, каму навука з'яўляецца скарбам, якога ў дзяцінстве не маглі знайсці. Вучацца гаспадары, якіх з самай раніцы да ночы трымае работа. Ціханька раскрыўшы сваю душу ўбіраюць у сябе ўсё, што тут пачуюць, бо дома няма калі вучыцца: работа, дзеці. А аднак тыя людзі ведамі сваімі стаяць высока. Некаторыя з іх «вясковыя аграномы». Запытай толькі — ведае вельмі многа. Іншыя зноў у палітыцы ведаюць усё. А тэзы IV з'езда нашай партыі вядомы ім добра. Адкуль яны гэта ўсё ведаюць? Цікавяць іх навіны з газеты, радыё, тэлевізара (бо і гэты апошні ёсць у школе). Кніжкі з нашай бібліятэкі заглядаюць пад стрэхі кожнага дома. Няма хіба хаты, у якой не чыталі б кніжак. Адзінокія жанчыны таксама часта ў свае спрацаваныя рукі бяруць тэты дарагі скарб, які і развесяліць, і паможа жыць па-новаму. Гэтых не забываюць гарцэры. Памагаюць ім у працы, падрыхтоўцы да свята ці ўпрыгожання іх хат і панадворкаў. Не чуюцца яны адзінокімі, хаця нярэдка пакінулі іх самыя блізкія — іхнія дзеці, якіх шкада і дзяцьмі называць. Што ж, іх часта пацікавіла жыццё горада, ці жыццё «на сваю руку». Забыліся яны пра бацькоў.

На нуду ніхто наракаць не можа, калі ў вёсцы радыёпрыёмнікі, точкі амаль у кожнай хаце і 2 разы ў тыдзень тэлебачанне, кіно прыязджае 2 разы ў месяц, а ў мясцовай святліцы — Клуб кніжкі і друку.

Моладзь наша таксама шмат працуе. Іграе яна ў мяч не толькі ў святочныя дні. Збіраецца яна таксама пад вечар, пасля работы. Мясцовы драмгурток з'яўляецца адным з лепшых, здабыў славу ў аколіцы. У нашай вёсцы ўсе жывуць добра. Маем матацыклы, веласіпеды.

Асабліва прыгожа наша вёска вясною, калі бачыш яе з горкі за сялом. Адтуль відаць яе ўсю: з яе царквою, школаю, квеццем садоў і разложыстым галлём старых ліп, вязаў, вербаў і іншых дрэў. Здалёк чуваць стракатанне трактароў, працуючых на плёскаўскіх палях. Не разбярэш тут, што прыгажэйшую песню спявае: песню свайго шчасця — птушачкі, ці песню працы і шчасця людзей — матары, малатарні, крайзегі, млыны, матацыклы. А людзі? Не ўсе сядзяць на месцы. Яны расплыліся па ўсёй краіне будаваць і павялічваць яе магутнасць і славу ў свеце. Выйшлі ад нас інжынеры, прафесары, афіцэры, настаўнікі, медсёстры, электратэхнікі і многа іншых. Усе яны закончылі сем класаў у сваёй вёсцы. Не забываюць яны нас, прыязджаюць у госці, а некаторыя працуюць на месцы, тут, як не ў роднай вёсцы, дык у суседняй, або ў паблізкім горадзе. Дваццаць год. Як гэта мала ў жыцці нашай тысячагадовай краіны, многа ў жыцці дзяцей, равеснікаў і малодшых нашай народнай дзяржавы. Дваццаць год існавання народнай дзяржавы дало нам тое, чым мы цяпер магутны: адчынены шырока дарогі да навукі, лягчэйшай працы пры дапамозе машын, якія замянілі сілу і рукі чалавека, культурнага адпачынку. Адным словам: лепшага жыцця кожнага селяніна.

**ЮРКА ШАРАТУХА**
Плёскі, Бельскі павет

## Гаспадар з вялікай літары

Па-рознаму гаспадараць на вёсцы. Адны намагаюцца добра апрацоўваць зямлю, сеюць усе культуры, якія прыняты ў іх аколіцы, гадуюць свінні, быдла, і паводзіцца ім нядрэнна. Другія перастаўляюцца на жывёлагадоўлю і дабіваюцца добрых вынікаў. Трафім Іванюк з Вітава, на Гайнаўшчыне, са сваёй жонкай і дачкою займаецца птушкагадоўляй. На краю вёскі за гумнамі аднавяскоўцаў знаходзіцца вялікі ўчастак зямлі, абгароджаны драцяной сеткай. Тут засаджаны сад, які даўно ўжо дае плады. Сярод дрэў заўсёды што-небудзь расце з зерневых культур. Далей сярод хваістых дрэў невысокі прадаўгаваты будынак, вакол якога мноства белых як снег курэй. У гэтым годзе іх блізка дзве тысячы. Блізка тысяча налічвалася куранят. Палавіну з іх былі пеўні, і таму неабходна было прадаць. Шмат тут ёсць нясушак, якім пароблены спецыяльныя гнёзды. У год Трафім Іванюк прадае дзяржаве больш 40 тысяч яек. Ён курэй так корміць, так іх даглядае, каб нясліся яны зімою, тады, калі яйкі значна даражэйшыя.

Трымае курэй ён два гады, бо, як пераканаўся Іванюк, толькі маладыя найлепш нясуцца.

Курыная ферма дае Трафіму Іванюку ў месяц больш 1000 злотых чыстага даходу.

Гэты гаспадар не толькі ўмела вядзе сваю курыную ферму. Ён таксама атрымоўвае высокія ўраджаі на сваіх 18-ці палосках. У яго зернявыя заўсёды найлепшыя. Бульба таксама дае добрыя ўраджаі. Блізка 400 цэнтнераў яе атрымоўвае ён з гектара. А зямля ў Вітаве дрэнная, пераважна пятай і шостай катэгорыі. І такі ўраджай бульбы з гектара, дык гэта ўжо рэкорд.

Трафім Іванюк з'яўляецца таксама мясцовым грамадскім дзеячом. З'яўляецца ён актыўным арганізатарам усяго новага ў вёсцы. Пакуль не распалася спулдзельня прадукцыйная, быў яе старшынёю і многа для яе зрабіў карыснага. Зараз з'яўляецца членам праўлення сельгасгуртка.

Жонка яго, Міля, не адстае ў грамадскай працы ад мужа. Многа працуе яна ў гуртку вясковых гаспадынь. З'яўляецца таксама членам павятовага праўлення сельскагаспадарчых гурткоў і вясковых арганізацый. Сям'я Іванюкоў з'яўляецца прыкладам добрага гаспадарання для ўсіх вітаўцаў.

Тэкст і фота
**М. Хмялеўскі**



**Трафім Іванюк са сваёй жонкай кормяць курэй.**

## У Луку прыехаў рэнтген

Нейкай нядзеляй у суседнюю вёску Лука прыехаў рэнтген Ваяводскай супроцьтуберкулёзнай амбулаторыі ў Беластоку. Адначасова з Гайнаўкі прыехала легкавая машына з др мед. Валянцінам Северын. Беластоцкія лекары раздавалі сярод сабраўшыхся бясплатныя лістоўкі, у якім гаварылася аб значэнні рэнтгенаўскіх праверак, аб выкрыцці страшнай хваробы — сухот і аб уплыве алкагалізму на чалавечае жыццё. Раздаўшы лістоўкі, лекары прыступілі да праверкі людзей. Аднак не ўсе зразумелі значэнне рэнтгенаўскіх праверак і не ўсе прыйшлі на прасвятленне лёгкіх. Тыя, хто не прыйшоў, тлумачыліся тым, што адчуваюць сябе здаровымі і нічога ім не баліць. Аднак яны моцна маглі памыляцца. Па-першае, відаць яны не ведаюць, што хвароба лёгкіх, сухоты, не адразу дае пра сябе знаць. Яна, як драпежны звер, спачатку таіцца, замацоўваецца, каб пасля, падабраўшы зручны момант, усёй сілай кінуцца на сваю ахвяру. А па-другое, гэта ж было бясплатнае прасвятленне, ды не ў Гайнаўцы, а ў сваёй вёсцы. Чаму ж не прыйсці?

Праверка людзей у белым аўтобусе працягвалася амаль цэлы дзень. Таксама цэлы дзень працаваў у зале пачатковай школы др мед. Северын. Ён бясплатна бадаў пацыентаў і прыпісваў лякарствы.

У гэтую ж самую нядзелю і гэтыя ж самыя лекары высвятлялі жыхарам бясплатна папулярна - навуковыя фільмы на тэму розных хвароб і ад чаго гэтыя хваробы паўстаюць. А пасля арганізавалі «Згадуй - згадулю». Найлепшую ўзнагароду атрымала настаўніца Пачатковай школы ў Луцэ Тамара Ціванюк — камплект талерак і сподкаў. Другую ўзнагароду — камплект нажоў і лыжак атрымаў кіраўнік школы Ян Ціванюк. Настольны гадзіннік, як трэцюю ўзнагароду, атрымаў Валодзя Засім. Чацвёртай узнагародай была хустка для Веры Лукша. Кітайскі тэрмас атрымаў Міша Пучынскі і апошнюю шостую ўзнагароду — вялікага плюшовага мішку — атрымаў Сцяпан Каральчук. На развітанне лекары паведамілі, што на другі год, а мо' хутчэй, яны ізноў завітаюць у вёску Лука.

**Янка Бура**
Тарнопаль

## КОНКУРС ГАРАДОЎ

Ужо другі год працягваецца на Беласточчыне конкурс гарадоў на найбольш прыгожы і чысты выгляд. Прымае ў ім удзел 32 гарады. Ваяводская конкурсная камісія ў апошні час наведала 4 гарады: Саколку, Дуброву, Монькі і Кнышын Сцвердзіла, што жыхары працуюць над упрыгожаннем горада: закладаюць газоны, пляцоўкі для гульняў, кветнікі. вл)

**вала ў фабрыцы фанеры. Была ціхай, уплівай і пільнай работніцай аддзела бухгальтэрыі. Начальства хваліць яе, даверыла ёй весці касу прадпрыемства.**

**Умовы дома таксама цяпер карэнна паправіліся. Тэрэска зарабляе не найгорш, мама Ляшчкоўская атрымала пастаянную 400-златовую месячную дапамогу ад гарадскога аддзела грамадскай дапамогі. Жыць стала многа лягчэй. Толькі вось пра бацьку нічога, цалкам ціха...**

**І раптам выклікаюць Тэрэску Ляшчкоўскую ў мясцовы тэлеграф. Замежная размова. У трубцы голас нейкага мужчыны. Гаворыць па-руску. Тэрэска не ўсё разумее. Яна ж ведае толькі польскую мову. Дапамагае нейкая жанчына, работніца тэлеграфа.**

**Мала даведалася Тэрэска з гэтай размовы. Ведала толькі адно: бацька, не родны бацька жыве! Яна чула яго, з ім гаварыла! Аж свет папрыгажэў!**

**Наладзілся перапіска. Бацька прыслаў вызаў. Тэрэса забрала ўсе свае скромныя ашчаднасці, купіла білет і падарункі, ды паехала ў Астрахань, — да бацькі ў госці.**

**— Вы пэўна здзіўляецеся, чаму я вярнулася назад у Польшчу? А маму хто бы гадаваў?**

**...і нейкі хлапец нецярпліва чакаў вас тут, праўда?**

**Тэрэска сцвярджальна маргае вейкамі, а твар яе пунсавее.**

**Вось такая гісторыя Тэрэскі. Ёй цяпер 21 год. Гэта ўжо ўзрослая жанчына Яна хацела б разам з маці аддзяліцца ад сястры — тым больш, што муж у сястры алкаголік і авантурнік. У Элку цяжка знайсці кватэру. Але мясцовыя ўлады павінны шчыра ўзяць да сэрца незвычайны лёс Тэрэсы Ляшчкоўскай. Спадзяемся, што Тэрэса сваё вяселле будзе спраўляць у новай кватэры.**

**ВІКТАР РУДЧЫК**



**Тэрэса з бацькам.**



© PDF: Kamunikat.org 2024
© Інтэрнэт-версія: Kamunikat.org 2024

